Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 55 ГР.

# ЖАНОЦКАЯ СПРАВА

**Орган Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын імя Алёізіі Пашкевічанкі (Цёткі).**

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ.

*ГОД ВЫДАНЬНЯ I. ВІЛЬНЯ, ВЕРАСЕНЬ 1931 Г.* № 4



## ДА БЕЛАРУСКІХ МАТАК.

Надыходзіць месяц верасень, а з ім пачатак школьнага году. Кожная з нас, беларускіх матак, якая мае дзяцей у школьным веку, сама павінна парупіцца аб тым, каб іх паслаць у школу. Як здавалася-б, павінна цешыцца сэрца маткі, што вось яе маленькі сямігадовы сынок ці дачушка праз два-тры месяцы будуць ужо ўмець чытаць і пісаць, заляпечуць ёй вершык, прыйшоўшы да хаты. Старэйшыя-ж яе дзеткі таксама пойдуць у школу. Там яны пашыраць сваю маленечкую веду, там іх узгадуюць на шчырых сыноў сваей Бацькаўшчыны; там-жа ў школе ўзмацуюць тыя задаткі, якія яна старалася абудзіць у сваіх дзетках, каб выкіраваць іх на добрых людзей і чэсных грамадзян, сьвядомых сваіх абавязкаў.

Але ці можам спадзявацца ўсяго гетага мы, беларускія маткі? Ці пачуем мы першыя прачытаныя словы нашага дзіцяці ў сваёй роднай беларускай мове? Ці заляпеча нам наша дзіцятка вершык пабеларуску?

Тыя людзі, якія вучаць і ўзгадоўваюць у школе нашых дзяцей, у большасьці людзі чужыя і далёкія нам па духу, і душа нашага дзіцяці, для іх таксама чужая і не зразумелая, дык ці яны могуць узгадаваць нам нашых дзяцей, як гэтага вымагаюць Бацькаўшчына і сям'я?

Той факт, што мы змушаны пасылаць сваіх дзяцей у школу, у якой вучацца яны граматы ў чужой не беларускай мове, зьяўляецца для нас вельмі цяжкім. Трудна нават сабе ўявіць, што ў дваццатым стагодзьдзі існуюць падобныя факты — аднак, яны, нажаль, ёсьць і іх мы пакуль што зьмяніць ня можам. Ды існуе яшчэ больш цяжкі факт, гэта той, што нашы дзеці, здабываючы веду ў чужой школе, *ня ўмеюць чытаць і пісаць у сваёй роднай беларускай мове.* Гэты факт

зьяўляецца для нас, беларусаў, ня толькі цяжкім, а проста трагічным. Адзінае, што можа быць у гэтым выпадку пацешаючым для нас, дык гэта тое, што гэтай бядзе хоць з пэўнымі высілкамі, але мы зарадзіць можам. I вось гэта павінны рабіць мы, беларускія маткі. На нас, матках, ляжыць абавязак, узгадаваць дзяцей. Усю адказнасьць за ўзгадаваньне паносім мы, маткі. Дык выпаўнім-жа з гонарам гэтае высокае і цяжкае заданьне— узгадуем сваіх дзяцей, як вымагае ад нас гэтага наша Бацькаўшчына Беларусь. Першым-жа з гэтых вымаганьняў зьяўляецца тое, што нашы дзеці мусяць чытаць і пісаць у беларускай мове. Мы, беларускія маткі, адмовім сабе ў неабходных рэчах, але, нашы дзеці мусяць мець сваю родную часопіс „Заранку", усе дзіцячыя кнігі з „Бібліотэкі-школьніка". Беларускі лемантар мусіць быць настольнаю кніжкаю ў кожнай беларускай сям'і. Дэвізам нашым, усіх беларускіх матак, павінна быць: *кожнае беларускае дзіця чытае і піша ў роднай беларускай мове.*

***Маці, дапільнуй, каб тваe дзеці умелі чытаць і пісаць пабеларуску!***

# Пясьняркі Ўсходняе Беларусі.

(Працяг).

*Я. ПФЛЯЎМБАЎМ.*

## Айчына.

Шлях знаёмы, сэрцу мілы,
Зноў спаткаў мяне прыхільна,
Зноў абуджаныя сілы
Да жыцьця імкнуцца пільна.

Чырвань радасьці агнёвай
Песьціць твар мой задумённы;
Думкі зноў у мір сталёвы
Працай узброены штодзеннай.

Сьветла - сінія часіны
Думкай — чырваньню заняты:
У сэрцы роднае краіны
Ты з пяшчотнасьцю прыняты.

2 Сьнежня 1924 г.

## Навальніца.

Навісьлі хмары брудным рызманом.
Пыл вочы сьціснуў востра, няпрыемна,
Гульлівым лёскатам зьвінелі воды Нёмну,
I бразнуў гром пякучы, патаемны.

Маланка? Не, маланкі ня было:
Яна скрыжалі зрэзала мінулым,
Яна сваё нясьмелае сьвятло
Ў чырвань - бляск не апранула.

А дрэвы гнуліся і енчылі, стагналі
Са сьвістам стрэхі млелі саламяныя,
Цымбаліў вецер, дзіка падпявалі
Віхры рытмамі страшнымі нечаканымі.

I здрыганулася жыцьцё кіпуча, вольна;
Агністым вокам кінула пагляд.





Абліла полымем шляхі зямлі мазольнай,
Абмыла фарбамі бліскучы вадаспад.

Прамяньне шчыльна атуліла грудзі,
Паснулі вочы ў радасным сьвятле;
Хай навальніца нашым сьцягам будзе,
Калі жыцьцё зноў зьмены нам прышле.

## Закрынічыла сэрца...

Эх, як жудасна — пуста навокала,
Губы паліць гарачай трывогай,
А ў стэпу трава ды пажоўклая,
І вярблюды ня топчуцца ў ногу.
Арляняты стракочуць і лаюцца,
Чайкі срэбрам пярыстым блішчаць,
А ўдоды ад сонца хаваюцца:
„Вось пячэ: ні лятаць, ні сьпяваць“.
Яшчэ чуцен мне, чуцен цягнічны гул,
Яшчэ бачу я погляд глыбокі:
Сэрца моцна ён жалем крануў,
Шляхам любым паўстаў і далёкім.
Ой, чаму мне так страшна, трывожна,
Сьлёз няма — ня бывае ніколі.
Ці-ж дзяўчыне бяз сэрца ня можна?
Ой, даволі кахаць ёй, даволі.
Не, Алесь, я цябе не запомню:
Я ў стэпах знайду ўспамін,
Бо і ў юрце кіргіза бяздомнай
Мы кумыс там пілі на пачын.
Пазіралі на нас кіргізёнкі:
Зацікаўленасьць у вочках плыла,
А ў паветры маўкліва — нязвонкім
Наша песьня нам радасьць нясла.
На руінах мы разам сядзелі,
І вярблюд за мною кульгаў,
А Алесь усё сьмяяўся вельмі,
Што й вярблюд чорна-бровых кахаў.
Эх, і радасьць мяцежна — віхурная:
І пасторнае жыцьцё было.
„Ну, галубка, чаго ты зноў хмурная?“
Ён пытаўся, спусьціўшы вясло.
Ён паехаў. Канчае навуку.
І сустрэне мяне ў сябе.
Ой, ты, сэрца, так моцна ня стукай,
Не адказвай дзявочай журбе!

## Я адна на далёкай чужыне.

Я адна на далёкай чужыне,
У бязьмежжы абшараў стэповых.
Я сумую па роднай краіне,
Па бяздольлі палёў васільковых.

Роўна, гладка, як вокам ня кінь:
Стэп! Крыніца казацкіх паходаў,
Тут прасторай палошчацца сінь
І глядзіцца ў плынь срэбных водаў.

Колькі вобразаў моцных і сьмелых
Навяваюць прасторы імглістыя,
Колькі плыняў жывых і дасьпелых,
Закрынічваюць радасьць пярыстую!

Панясла мяне плынь бескалёрная;
Ціха плешчуцца хвалі лазурныя;

Ой ты, рэчка, сталёва-пакорная,
Супакой майго сэрца віхуры.

І ў радасьць бяз шэлесту злоснага
Атулі аксамітнаю плыньню,
За ружовымі думкі кроснамі
Ты чапурыцца гнеўна пакінь.

А нябёсы — поўвыспы ружовыя
Перад Захадам мосьцяць уклоны,
І апошні прамень фіялковы
Атуліў мне прыветна далонь.

*Кожная сьвядомая беларуска павінна рупіцца аб тым, каб захавілася наша родная беларуская мова, песьня і вопратка.*

# З ЖАНОЦКАГА СЬВЕТУ.

## 24-гадовая дзяўчына міністрам унутраных справаў у штаце Луйсіяна U. S. A. (Амэрыка).

Амэрыканцы звычайна выбіраюць ці назначаюць сваіх урадоўцаў не на падставе часу іх працы ці веку, але з пагляду на іх здольнасьці. Доказам гэтага зьяўляецца тое, што 24-ох гадовая Аліцыя Лі Гросджын назначана Міністрам Унутраных Справаў у Амэрыканскім Штаце Луйсіяна. Грамадзянку Гросджын назначылі неспадзявана ў працягу некалькіх гадзін пасьля сьмерці міністра Джэймса Бэйлея. Галоўнаю прычынаю гэтага назначэньня было тое, што грамадзянка Гросджын, працуючы некалькі ўжо гадоў у міністэрстве, добра ведала ўсе яго справы.

## Найвыдатнейшыя жанчыны ў Амэрыцы.

Як падае „Ж. Д.“, нядаўна адна з найбольшых часопісаў (мае падпішчыкаў больш за два міліёны) выпусьціла анкету, пытаючыся сваіх чытачоў, якія ў сучаснай Амэрыцы ёсьць найвыдатнейшыя жанчыны.

З адказаў чытачоў выбрана 2786 імёнаў. Апрача гэтага часапіс запытаўся ўсіх прафэсароў унівэрсытэту ды іншых выдатных людзей і стварыў камісію з пяцёх асобаў. Гэтая камісія выбрала з тых 2786 жанчын 26, а пасьля пагадзіліся на 12 найвыдатнейшых.

Іх імёны гэткія:

1. Грэйс Аббот, старшыня фэдэральнага дзіцячага бюра.
2. Джэйн Адамс, піонэрка ў соцыяльна дабрадзейнай працы.
3. Сэсылія Бо, артыстка і дырэктарка Амэрыканскае Фэдэрацыі Прыгожага Мастацтва.
4. Марта Бэрры, піонэрка ў пашырэньні асьветы сярод дзяцей паўднёвых горцаў.
5. Вілля Кэтаэр, новэльлістка.
6. Кэрры Чэмпан Кэпэні, суфражыстка і працаўніца для міра.
7. Грэйс Кулідж, жонка быўшага прэзыдэнта.
8. Мінні Маддэры Фіск, артыстка.
9. Гэлен Кэллэр, глухая і сьляпая пісьменьніца і лектарка.
10. Флорэнс Рына Сабін, сябра Акадэміі Навук.
11. Эрнэсьтына Шуман Гэйнк, сьпявачка.
12. Мэры Е. Вуллей, трыццаць гадоў прэзыдэнткаю Мавыт Голыбук-колегіі.

*Кожная сьвядомая беларуска павінна выпісаць беларускую часопіс «Жаноцкая Справа», чытаць яе сяброукам і пісаць туды весткі з свайго боку.*

# Гутаркі аб гігіене.

(П р а ц я г).

Астаецца сказаць некалькі слоў аб *воспе, дыфтэрыце, шкарлятыне і водры.* Калісьці ў часе эпідэміі *воспа* рабіла страшэнныя спусташэньні сярод людзей, але сто гадоў таму англійскі доктар Джэннэр завёў забясьпечываючую прышчэпку. Дзеля гэтых прышчэпак бярэцца матэрыя (гной) з болек хворых на воспу цялят і прышчапляецца ў скуру дзяцей — найлепш чатырох — або шасьці - месячных. Найлепей прышчапляць вясною. Гэтыя прышчэпкі забясьпечываюць ад хваробы ў працягу пяцёх — сямёх гадоў. Пасьля гэтага часу трэба паўтарыць прышчэпку.

*Дыфтэрыт* — гэта хвароба, якая найчасьцей захоплівае горла, але бывае і дыфтэрыт у носе, воку і на ранах. Бактэрыя дыфтэрыту пападае ў горла праз заражаную пасуду, або пры пасрэдніцтве маленькіх капель сьліны пры кашлю ці размове, або выдзялін із носу пры чханьні. Дыфтэрыт пераважна хвароба дзяцей, але бактэрыі часта сустракаюцца ў горле здаровых дарослых людзей, якія, хоць самі могуць і незахварэць, але дзяцей могуць заразіць. Дзеля гэтага трэба высьцерагацца цалаваць у вусны дзяцей, ня трэба размаўляць лішне блізка, трэба адварачвацца пры кашлю і чханьні.

*Шкарлятына* таксама пераважна хвароба дзяцей. Зараза яшчэ дакладна няведама. Бывае ў горле і ў крыві хворага. У хворых зьяўляецца высыпка па ўсім целе, а пасьля скура лушчыцца. Зараза распаўсюджываецца або так, як і дыфтэрыт, выдзялінамі із горла і носу хворага, або праз пасуду, адзежу, кніжкі і цацкі, на якіх доўга трымаецца зараза.

*Водра* таксама высыпковая хвароба — пераважна ў дзяцей, але не такая небясьпечная, як шкарлятына. Зараза яшчэ няведамая. Зьмяшчаецца напачатку ў носе і горле, а пасьля ў крыві. Распаўсюджываецца надта шыбка, і ўсе людзі склонны да яе. Блізка ўсе на яе хварэюць — калі не ў дзяцінстве, дык у дарослым веку.

Як вы чулі з вышэйсказанага, бактэрыі знаходзяцца ў вялізарнай лічбе ў паветры, зямлі, вадзе, прадуктах, і калі-б чалавек быў безбаронны адносна да гэтых ворагаў, то хварэў-бы шмат часьцей і цяжэй, ды часьцей гінуў-бы ад хваробаў. А мы часта бачым, што чалавек даглядае хворага, невыпаўняючы ніякіх правілаў гігіены, а сам не хварэе,— а другія, эдаецца, няведама з якой прычыны хварэюць. Вось чаму многія ў народзе ня вераць у бактэрыі, у магчымасьць захаваць сябе ад хваробы, а гавораць, што прычынай хваробы зьяўляецца застуджэньне, утома, перапуд, або ўзварушэньне. І запраўды: чалавек хварэе часта на заразную хваробу *пасьля* застуджэньня, утомы, або сільнага ўзварушэньня, бо ад усяго гэтага аслабляецца ягоны арганізм. Бактэрыі, калі пападаюць у цела чалавека, пачынаюць множыцца і выдзяляць із сябе ядавітыя для чалавечага цела матэрыі. Здаровы чалавечы арганізм у адказ на гэта выпрацоўвае ў сваей крыві проціяды, якія забіваюць бактэрыі. Ёсьць у чалавечым целе і такія клеткі, якія забіваюць і зьядаюць бактэрыі. У гэтай барацьбе могуць здарыцца два выпадкі: або чалавек здолее хутка забіць бактэрыі, пакуль яны яшчэ не пасьпелі забурыць дзеяльнасьць арганізму, гэта знача выклікаць хваробу; або арганізм акажацца лішне слабым, каб зрэзу-ж забіць бактэрыі, і яны выклічуць хваробу, а тады распачынаецца ўжо шмат цяжэйшая барацьба — да перамогі аднаго ці другога, гэта знача да выздараўленьня або сьмерці. У першым выпадку, калі заражаны чалавек астаўся здаровым і толькі носіць у сабе няшкодныя ўжо для яго самога бактэрыі, або ў другім, — падчас хваробы і нават нейкі час пасьля выздараўленьня, — чалавек можа служыць крыніцай заразы для другіх людзей. Процiяды, якія чалавек выпрацаваў у часе барацьбы з бактэрыямі, астаюцца на нейкі час у крыві чалавека, і на гэты час арганізм чалавека адпорны проці данае хваробы. Процiяды некаторых бактэрыяў астаюцца ў крыві на ўсё жыцьцё, і на такія хваробы чалавек хварэе толькі адзін раз, — напрыклад: шкарлятына, сыпны тыфус, водра. Як вы бачыце, каб забясьпечыць сябе ад хваробы, ня досыць высьцерагацца сутычнасьці з хворымі, а трэба забясьпечыць сябе і ад здаровых насіцеляў бактэрыяў, а гэта, як вы самі разумееце, магчыма двума шляхамі. Першы — гэта *ўзмацненьне свайго цела,* каб зрабіць яго больш адпорным проці бактэрыяў і здольным да барацьбы з імі. Мы бачылі, што шмат бактэрыяў умацоўваецца спачатку ў кішкох чалавека, але, каб дабрацца ў кішкі, ім трэба прайсьці праз жалудак, які выпрацоўвае саляны квас, шкодны для многіх бактэрыяў. Таксама і ў кішкох знаходзіцца жоўць і другія выдзяліны, забойчыя для бактэрыяў. Але, калі чалавек зьесьць благія прадукты, або неадпаведна корміцца, дык у жалудку і ў кішкох разьвіваюцца катары, патрэбныя выдзяліны не выпрацоў-

ваюцца ў належнай меры, і тагды бактэрыям лёгка там умацавацца і выклікаць хваробу. Як вы чулі, ёсьць і бактэрыі, якія за шлях сабе выбіраюць горла і або ўмацоўваюцца ў гэтым воргане, або ідуць далей у лёгкія. Каб бактэрыі маглі ўмацавацца ў гэтых мясцох, таксама трэба, каб ім быў прыгатаваны там грунт шкоднымі для гэтых органаў газамі, пылам, або другімі гнільнымі бактэрыямі. Вось чаму *жыцьцё ў прасторных, добра праветрываных памешканьнях, чыстае ўтрымліваньне нашага роту і зубоў* аховывае нас ад гэтых заразных хваробаў.

(Канец будзе).

**Д-р Зофія Луцкевічовая.**

# ЛЯЧЭЦЕСЯ ЗЁЛКАМІ!

Мы павінны зьвярнуць увагу на тыя зёлкі, па якіх мы ходзім, топчамся і не зварочваем на іх ніякае ўвагі, ня ведаючы таго, што яны памагаюць ад тае, ці іншае хваробы.

Кажная расьлінка, кожнае нязначнае зельле мае нейкую лякарскую ўласьцівасьць, але мы ня ведаем ад якой хваробы гэтая расьлінка памагае. Напрыклад такая крапіва, на каторую мы не зварочваем ніякае ўвагі, памагае шмат ад якіх хваробаў.

Крапіва жгучка; адвар яе памагае пры грудных хваробах, гэморої і пры некаторых жаночых хваробах (аб якіх напішам у адным з наступных нумароў нашае часопісі).

На тры з палавінаю шклянкі вады ўзяць жменю сушанай крапівы, запарыць, пасьля працадзіць ды піць тры разы на дзень прыблізна па шклянцы на раз.

Насеньне кропу; добра памагае малым дзецям, калі ім баліць жыватох, яны тады надта плачуць і корчацца.

Насеньне кропу трэба даваць па гарбатняй лыжаццы па некалькі разоў у дзень. Яшчэ з гэтага адвару робіцца кампрэс на жывот.

Мядзьведзіна; настой з лістоў і кветак памагае дзецям пры высыпцы і струпох, а таксама ўжываецца для паласканьня горла.

Шалвей лугавы; памагае ад сільных начных потаў, запаленьня горла і цынгі, а таксама пры запаленьні печані і нырак.

*А. К.*

# Як і ад чаго ўжываць пэўныя лякарствы.

Як дрэнна хварэць — кожны ведае, але найбольш гэта адчувае той, хто мусіць цяжка працаваць, каб зарабіць на кусок хлеба. Возьмем напрыклад селяніна. Тут усе працуюць ад малога да вялікага і калі хвароба зваліць каго з ног і зробіць нявдольным да працы — то гаспадарка на гэтым надта церпіць. Ня гледзючы на гэта ў нас пераважна ня дбаюць аб тое, каб захаваць сваё здароўе як на даўжэй, а калі і здарыцца захварэць, каб у час пачаць лячыцца. Селянін рэдка калі, адразу зьвяртаецца да доктара. Раней ён пойдзе да шаптуна, ці да шаптухі. Да доктара толькі тады прыедзе, як ужо ня толькі хадзіць, але і ўстаць з ложка ня можа. А тады часта, на жаль, бывае ўжо за позна, бо калі хвароба зацягнецца, яе трудна потым вылячыць. Такім чынам траціць селянін шмат грошаў, бо шаптуны дарма ня шэпчуць, а перадусім траціць сваё здароўе, бо карысьці з замаўляньня для хворага няма ніякай. Аднак трэба і самім ведаць, што рабіць у той момант, як здарыцца якая колечы бяда, а доктара няма на месцы, трэба ехаць за дзесяткі кілёмэтраў. Добра было-б, каб у кожнай хаце былі неабходныя лякарствы, якія найчасьцей могуць быць патрэбнымі, але гэта каштуе грошы, а яны не заўсёды ёсьць. Такую малую аптэчку можна зрабіць у складчыну, напрыклад, пры бібліятэцы-чытальні, аб якую павінна старацца кожная сьвядомая беларуска, дзе магла-бы адпачыць пасьля цяжкой фізычнай працы, пачытаць у сваёй роднай беларускай мове, ці паслухаць, калі сама чытаць ня ўмее.

Адным з найбольш ужываных лякарстваў ёсьць ёд, бо-ж калечацца надта часта і старыя і малыя, асабліва дзеці, каторыя ня маюць добрага дагляду. Улезе такое малое ў сячкарню і бяда гатова — калі зусім не адрэжаць пальцаў, то моцна пакалечыць. Старыя-ж, падпіўшы, таксама часта калечацца. Калі рана чыстая—трэба яе заліць *ёдам*, зрабіўшы з ваты на трэсачцы маленькі квачык

і ўмачыўшы яго ў ёд. Потым абвярцець чыстаю шматкаю. Ні ў якім выпадку не залепліваць раны хлебам з павуціньнем, як гэта часта можна спаткаць яшчэ і цяпер у цёмных куткох нашай старонкі. Калі рана забруджаная зямлёю або гноям, трэба яе абмыць чыстаю вадою, заліць ёдам, абвярцець і вязьці да доктара як найхутчэй, хаця-б рана была зусім малая. У зямлі і ў гнаі ёсьць такія злосныя бактэрыі, якія трапляюць адразу ў кроў і могуць выклікаць надта цяжкую хваробу, якая ў працягу некалькі дзён вядзець да сьмерці. Ад яе вылечыцца амаль-што немагчыма. Рана не заўсёды гноіцца; яна можа загаіцца, але пасьля якіх трох тыдняў чалавек памірае ад таго, што гэтыя бактэрыі трапілі ў самую кроў. Каб забясьпечыць ад паўстаньня такой хваробы, робяцца спэцыяльныя ўколы і таму трэба абавязкова зьвярнуцца ў шпіталь або так да доктара.

Ёдам можна смараваць розныя прышчы.

Апрача ёду патрэбна надта ў штодзенным жыцьці *рыцына,* якую трэба даваць, калі бывае запор. Даваць нараз 1—2 лыжкі. Хто ня можа цярпець смаку рыцыны, дык трэба выціснуць на спод лыжкі крыху цытрыновага соку, або квасу ад капусты, пасьля наліць рыцыны ізноў крыху цытрыновага соку ці квасу. Няпрыемны смак рыцыны згіне. Дзецям даецца малую лыжачку.

Рыцыну таксама добра ўжываць дзеля абкладаў на прышчы, луску на шкурцы, лішаі і ўсялякія пякучыя ды сьвярбячыя выкіды на целе.

*Валерыянавыя каплі.* Ужываць пры біцьці, аслабленьні сэрца, болях каля сэрца, браку паветра, дыхавіцы, неспакою і бяссоніцы і то тры разы на дзень па 10—15 капель.

*Аманяк.* Ужываць проці ўкусаў камароў, пчолаў, чмялёў, шэршанёў, восаў і падобных кузурак. Ттэба зараз-жа пасьля ўкушэньня пацерці гэтае месца змочаным коркам ад аманякавае пляшачкі.

Добра даваць панюхаць з пляшачкі, як хто самлее.

Пляшку з аманякам трэба трымаць добра закаркаванаю.

(Працяг будзе).

# Ці патрэбна нам сьвежае паветра? Праветрываньне.

Паміж лясамі, палямі параскіданы нашы беларускія вёскі. Паветра чыстае, здаровае, але на жаль ня ўмеем мы гэтым паветрам добра карыстацца.

Хаты будуем найчасьцей маленькія, цёмныя. Вокны ў хатах робім малыя, а дзеля гэтага і сьвятла і паветра ў хатах мала. Ня ўсе людзі ў нас ведаюць, што (сьвятло), сонца, паветра для здароўя важнейшыя за піцьцё і ежу. Бяз ежы вытрымае чалавек некалькі дзён — тыдняў, бяз піцьця некалькі дзён, бяз паветра ня вытрымае і некалькі мінут.

У нашых вёсках ёсьць дрэнны звычай. Людзі ў гэтай самай хаце, што жывуць, гадуюць у зімку жывёлу: то цяле, то баранчыка, а заўсёды трымаюць курэй. Гэтым з хаты робіцца хлеў. Скаціну нельга трымаць у зімку ў хатах, але трэба трымаць у аддзельным хляве, бо вострыя сьмярдзючы гной скаціны і курэй шкодны для людзкога здароўя.

Жывёле можа быць добра і ў хляве, калі хлеў добра, разумна збудаваны і чыста ўтрыманы.

У другіх краёх людзі ведаюць, што людзкое здароўе, гэта вялікі скарб і ведаюць, што трэба яго шанаваць, дый і ўмеюць аб ім (здароўі) дбаць.

Там будуюць сабе людзі вялікія, высокія хаты на 2 канцы, асобную кухню, дзе гаспадыня варыць для ўсіх.

Там у кухні ў дзень працуюць, а ноччу сьпяць у іншай асобнай сьвятліцы.

У хатах і каля хат парадак і чысьціня. Хату трымаюць чыста. Хай наша хата малая і бедная будзе прыбраная і чыстая. Каб хата была здаровая, трэба яе часта праветрываць, г. зн., трэба некалькі (2 — 3) разы у дзень адчыняць вокны, дзьверы, на некалькі мінут, каб сапсаванае паветра замяніць чыстым. З вонку найлепш адчыняць дзьверы раніцай, калі запаліваецца ў печы, а ў вечар перад спаньнём. Хату трэба праветрываць як у зімку так у летку, як у восень, так і на вясну. У зімку добра праветрываць гэтак: калі агонь у печы добра разгарыцца, трэба на некалькі мінут паадчыняць вокны. Калі зачыняцца

вокны, праветраная хата хутка сагрэецца, бо чыстае паветра куды хутчэй сагрэецца за сапсаванае, сьмярдзючае.

У нас на вёсках, мястэчках дый і ў гарадох хаты мала праветрываюцца ня толькі ў зімку але ў летку, бо баяцца, што набярэцца поўная хата мух. А яны мухі і рады гэтаму, бо ня праветрываючы, мы ім толькі памагаем расплоджвацца.

У хаце, у якой не праветрываецца, людлі найчасьцей бледныя, худыя, кволыя і вельмі часта дастаюць сухотаў. Гаспадыні, памятайце, што трэба штодня праветрываць хаты раніцай, каб выйшла сапсаванае праз ноч паветра, у дзень, каб працаваць у сьвежым паветры, і ў вечар, каб для спаньня была сьвежае паветра.

**Сястрыца.**

14. IV. 31.

Чэхаславацыя.
Санаторыўм Альбэрцінум.
Mu. D-r Н. В.

# ДА НАС ПІШУЦЬ.

Чытаючы нашу часопісь »Ж. С.«, я знайшла ў ёй шмат і карысных парадаў, заклікаў і разважаньняў, якія бязумоўна павінны зьвярнуць увагу нашых жанчын і змусіць іх задумацца над тым; ці выпаўнілі яны ўсё тое, што ляжыць на іх абавязку і што ім пад сілу. Калі разглядзець гэтыя абавязкі, дык яны ня толькі ня меншыя, чым абавязкі мужчыны, але сьмела можна сказаць, што ў некалькі разоў на'т большыя.

Ніхто іншы, як жанчына, узгадоўвае новае пакаленьне, ад якога залежыць будучыня нашай многапакутнай Бацькаўшчыны; і ўсё тое, што яна здолее прышчапіць сваім дзецям, пакуль яны выйдуць з пад яе апекі, будзе як-бы асновай у будучым іх жыцьці. Бацькі ўвесь час, як настане дзень, няма ў хаце: то едзе на поле, то на сенакос, то даглядае жывёлу, а ўзімку едзе ў лес, каб зарабіць неабходны грош хоць на частку падаткаў, або змучаны фізычнай працай, мусіць адпачыць. Жанчына-ж усё топчацца каля хаты і дзяцей, хоць яе праца і не ўдзячная, работы ня відаць на першы пагляд, аднак, фактычна на ёй ляжыць усё. Усе міністэрствы яе маленькай дзяржавы ў яе руках. Яна зьяўляецца міністрам апекі, бо-ж ніхто іншы, як яна мусіць даглядзець, каб кожны сябра яе сям'і меў усё неабходнае, каб быў накормлены, абуты, адзеты, памыты і прычэсаны. Яна-ж і міністар унутраных спраў і справядлівасьці, — бо-ж яна разьбірае ўсе справы ў хаце, выдае тыя ці іншыя загады, а часам і, каго трэба — пакарае. Яна адначасна і міністар асьветы, бо ніхто іншы, як яня, вучыць дзіця перахрысьціцца і першая пяе яму калысанку нават у ночы, якая застаецца ў яго памяці на доўгія гады. Яна-ж, урэшце, зьяўляецца міністрам прамысловасьці і гандлю, бо-ж яна сее лён, тчэ палотны, гадуе сьвіньні, куры, а час-ад-часу прадасьць які дзясятак яечак ці зробіць сырок, або грудачку масла, прадасьць у месьце і ўжо мае на самыя неабходныя рэчы: як газа, хустка ці фартушок. Міністэрства аправізацыі ляжыць таксама ў яе рукох: бо ў добрай гаспадыні знойдзеш усё: бульбу, буракі, капусту, сала, вандліну, розныя крупы і прыправы, і гэта ўсё зроблена і разлічана так, каб хапіла на ўсю зіму і вясну, калі найтруднейшы час у гаспадарцы. Дык вось бачым, што роля жанчыны ў жыцьці не такая малая, а на адварот вельмі вялікая, бо-ж усюды яна мусіць быць, нішто бяз яе не робіцца ў хаце.

Трэба толькі каб жанчына паставіла сябе разумна — на належнай вышыні, тады толькі яна здабудзе і належную ёй пашану з боку мужчыны. Разумная жанчына можа шмат зрабіць у кожнай галіне жыцьця, аб гэтым на'т нам гаворыць старая як сьвет прыказка: „Мужчына галава, а жанчына шыя; куды галаву паверне туды яна клоніцца". Ёсьць ведама, жыцьцё на нашай вёсцы не завіднае, на'т рэдка хто з нашых жанчын умее чытаць і пісаць, а гэта мае вялікае значэньне ў жыцьці. Хоць у нядзельку, калі разыдуцца ўсе хатнія хто куды, а ты застанешся сама з сваімі думкамі і малым дзіцём у калысцы на душы так цяжка, так накіпела на сэрцы. Возьмеш кніжку ці газэту ў роднай

зразумелай мове, прачытаеш, даведаешся, што робіцца на сьвеце, знойдзеш там верш ці апавяданьне падобнае да твайго ўласнага жыцьця, да тваіх перажываньняў і на душы зараз зробіцца лягчэй, што ты не адна. Ляжыць гэта ўжо ў натуры чалавека, што ў гурце і гора выдаецца лягчэйшым. Дык вось стараймося з усіх сіл, каб вучыць дзяўчат на роўні з хлапцамі. Дабіваймася разам з мужчынамі для нашых дзяцей роднай школы ў роднай мове, бо гэта наша *права* гэта наш *абавязак* у адносінах да нашых дзяцей і Бацькаўшчыны. На адну хвіліну не забывайма, што мы *беларускія* жанчыны і на нас ляжыцц абавязак узгадаваць новае пакаленьне сьвядомым і моцным духам і целам, каб кожны ведаў што ён беларус, сын ці дачка сваей змучанай Бацькаўшчыны і гэтым гардзіўся. Каб ніхто ня мог яго запалохаць ды змусіць называць сябе нейкім *тутэйшым* ці *паляшуком!* Мы жанчыны павінны ўзгадаваць новае пакаленьне ў веры ў сьветлую будучыню. Успомнім верш нашага паэты Я. К. »Ворагам беларушчыны«, які канчаецца словамі: „не пагасіць вам праўды яснай: жыў беларус і будзе жыць!“. Першым нашым абавязкам — гэта дабівацца роднай школы ў роднай мове і прыймаць найактыўнейшае ўчасьце ў тэй акцыі, якая вядзецца нашымі культурна-асьветнымі арганізацыямі па складаньню дэкларацыяў на родную школу.

**Юля Антанавічанка.**

*Пашырайце часопісь „Жаноцкая Справа“.*

---

*Сястрыцы, дбайце, каб у вашай весцы была беларуская бібліотэка-чытальня. Калі яна ёсьць, хадзеце туды чытаць беларускія кніжкі і клічце з сабою сваіх нясьведамых сяброўак.*

---

# Ці варта умець шыць і вышываць.

У кожнай хаце знойдзецца нейкая старая сукенка, ці, паводле моды, за кароткая, дык трэба агледзець гэткую, на першы пагляд, нікудышную рэч, вымыць яе, спосабам, які мы ўжо падавалі ў № 1 »Жаноцкае Справы«, прымяркаваць і перашыць на тое, што выйдзе: кафтанік, блюзка, дзіцячая сукенка ці спаднічка, якой выкрайку і малюнак даём у гэтым нумары. У наступным нумары, дамо выкрайку дзіцячае сукенкі, а таксама і рысункі да вышываньня.

Цяпер вось ідзе доўгая зіма з доўгімі нуднымі вечарамі, дык кожная з нас павінна пастарацца запоўніць іх разумна, разагнаць нуду, а гэтым самым і скараціць іх.

Ёсьць ведама, што самой сядзець у хаце, калі ўсе старэйшыя, зморанныя працаю сьпяць, заняцца нават такой прыемнаю работаю, якою зьяўляецца вышываньне, трудна, бо і сама хутка захочаш спаць. Лішні-ж сон карысьці не прынясе, а да таго жыцьцё такое кароткае і трэба яго як мага больш выкарыстаць для сябе, не забываючы і аб грамадзкай працы, якая ляжыць на абавязку кожнае сьвядомае жанчыны. Дык возьмем прыклад з нашых бабулек, якія ў моладасьці зьбіраліся на „вячоркі“ ці „папрадухі“, забываліся аб сваім горы і нядолі і пад бурчэньне верацен вылівалі іх ў сумных беларускіх песьнях, якія засталіся ў нас і да гэтага часу. Зьбіраймося і мы гуртом у бібліотэцы-чытальні, якая павінна быць у кожнай вёсцы; ці ў каго колечы ў хаце, купіўшы ў складчыну газы, з работаю, з сваею жаноцкаю часопісьцю »Жаноцкая Справа«, ці газэтаю ў сваёй роднай мове, з якой даведаемся, як жывуць людзі і да чаго маем імкнуцца і мы.

Шмат гадкоў ужо прайшло ад таго часу, ад гэтых бабулькіных „вячорак“ і шмат што зьмянілася. Тады жанчына наагул была забытая, забітая і паднявольная, а аб беларускай-жа жанчыне і гаварыць ня прыходзіцца. Жыцьцё пайшло так наўперад, што жанчына на ўсім сьвеце стаіць побач з мужчынай і ра-

зам з ім куе сваё шчасьце і шчасьце сваёй Бацькаўшчыны, а ў шмат выпадках можа зрабіць больш, чым мужчына. І мы, беларускія жанчыны, хоць памаленьку, крок за крокам але ідзём наўперад.

Чытаючы ўкраінскія жаноцкія часапісі, даведываемся з іх аб жыцьці нашых найбліжэйшых сёстраў — украінак, аб іх арганізацыях, аб выстаўках іх хатніх работ, аб іх нацыянальных вышыўках, якімі ўпрыгожана вопратка і хата кожнае ўкраінкі; аб украінскіх хорах, якія славяцца аж у далёкай Амэрыцы і аб іх моцным нацыянальным пачуцьці. Прачытаўшы ўсё гэта, нейк становіцца цяжка на душы і прасыпаецца заздрасьць, чаму мы гэтак адсталі, чаму мы гэтага ўсяго ня маем, чаму мы такія слабыя духам і чаму да нас гэтак лёгка прыстае ўсё чужое?



Спаднічка.

Пара і нам беларускім жанчынам скінуць з сябе як-бы сон і ўзяцца за будаваньне свайго ўласнага жыцьця. І так памаленьку, чым хто можа — вершыкам у сваей роднай мове, сваею песьняю так прыгожаю і мілаю нашаму сэрцу, нацыянальнымі касьцюмамі, узорамі вышытымі на блюзцы ці сукенцы, ці *сваімі* тканінамі, ці прачытаньнем голасна сваей часопісі, кніжкі ці газэты ў сваей роднай мове, дамо аб сабе знак, што мы ёсьць а ўсё гэта будзе як-бы аднэй цаглінай да нашай вялікай будыніны. Чытаць кожная з маладых жанчын ужо ўмее, хоць учылі, на жаль, не ў беларускай мове, тым болей у сваей роднай мове нам лёгка навучыцца. У кожнай з нас бурліць беларуская кроў і б'ецца беларускае сэрца, а першыя словы, якія пачула над калыскаю ад сваёй старэнькай бабулькі і маткі, былі словы беларускія.

Трэба толькі ўявіць сабе, што мы беларускія жанчыны, нічым ня горшыя чым жанчыны іншых народаў і моцна верыць, што: „Загляне сонца і ў наша ваконца“.

**Цётка Тоня.**

# ГАСПАДАРЧЫЯ ПАРАДЫ.

## Разводзьце суніцы.

(Працяг).

Вось ужо пара садзіць суніцы. Думаю, што кожны, хто хацеў іх мець, дык паклапаціўся прыгатаваць месца так, як гэта гаварылася ўжо ў № 2 »Ж. С.«. Цяпер трэба толькі дастаць расады суніц г. з. флянсаў. Флянсы павінны быць добра закарэняныя і не завяўшыя, а калі-б выпісаны былі здалёк і крыху прывялі, дык трэба іх палажыць на некалькі гадзін у ваду, каб адыйшлі. Садзіць трэба ў радкі ня гусьцей, як 75 цэнтымэтраў (1 аршын) радок ад радка, а паўмэтра (50 цэнтымэтраў) корчык ад корчыка. Градак і разор рабіць ня трэба, а толькі пратаптаць як-бы сьцежачку паміж радкамі, калі суніцы садзяцца па бульбе (сьпешцы) ці на адмыслова прыгатаваным месцы.

Калі садзім паміж радкамі варыва, дык трэба гэтае месца, дзе будзем садзіць суніцы, перакапаць і ачысьціць ад зельля. Садзяцца суніцы так: бярэцца корчык леваю рукою зьверху, праваю робіцца ямачка такой вялічыні, каб можна было разлажыць карэнчыкі флянса суніцы (каб не садзіць іх зьбіўшы разам як суслу) прысыпаць зямлёю, абціснуць яе, навокал робячы кругом корчыка як-бы раўчучок, каб у ім лепш затрымлівалася вада; і зараз-жа добра паліць суніцы гнаёўкаю. Паліваць трэба некалькі разоў, калі пападзе пад сушу, але ўжо чыстаю вадою. Гнаёўкай добра паліць пару разоў да марозаў. Корчыкі суніцы прыжывуць да марозаў і выпусьцяць па некалькі лісточкаў, а часам і вусы г. зн. новыя флянсы. Флянсы ад маладых кусьцікаў суніц трэба адрэзываць, каб не расьлі і не цягнулі сокаў з толькі што прыняўшайся і ўзмацаваўшайся расьлінкі. Паліваць вельмі моцнаю гнаёўкай ня можна, бо калі пападзе пад сушу, дык выпаліць. Калі ў каго ёсьць спадзісты равок, па якім сьцекае жыжка з хлева і бочка, у якую яна сьцякае, дык трэба ўзяць гэтакае жыжкі на вядро якіх тры літры, а рэшту дапоўніць вадою.

Калі-ж няма сьцеку, дык трэба ўзяць звычайнага каровінага калу разьвясьці з вадою і пакінуць так пастаяць дзён некалькі, а тады паліць такою жыжкаю расаду.

## Спосабы хутчэйшага дасьпеваньня памідораў.

Хоць дасьпелыя памідоры на кустох куды смачнейшыя, але ў нашым клімаце дасьпела-б іх вельмі мала і вельмі позна, дык стараюцца прысьпяшыць іх дасьпяваньне штучна. Ёсьць некалькі спосабаў дасьпеліваньня; вось тут два з іх мы і падаём. Найхутчэй дасьпяваюць памідоры, калі кожны памідор закруціць у паперу і зкласьці шчыльна ў скрынцы, прыкрыць чыстым кавалкам старога, у некалькі столак зложанага палатна і паставіць у цёплым месцы на нейкі час. Трэба пераглядаць памідоры што пару дзён, сьпелыя і папсутыя выймаць, а зялёныя ізноў класьці ў скрынку. Так рабіць датуль, пакуль усе памідоры не дасьпеюць.

Сьпеляць памідоры яшчэ і так: Калі ёсьць большая колькасьць памідораў і дубальтовыя вокны, якія ў летку можна выкарыстаць дзеля хутчэйшага сьпяленьня памідораў, трэба зрабіць скрынку вялічынёю ў адно вакно ці ў два, гледзячы па колькасьці памідораў; глыбінёю на 30 цэнтымэтраў, паставіць на сонца, разлажыць у ёй памідоры, прыкрыць вакном так, каб адзін канец вакна ляжаў на беразе скрынкі, а другі падперці кійком, каб была шчыліна паміж вакном і скрынкаю. Зьверху вакно прыкрыць якім-колечы мяшком, каб пад вакном у скрынцы было цёмна і цёпла, але каб сонейка беспасярэдне не сьвяціла на памідоры. Шчыліну паміж вакном і скрынкаю трэба рэгуляваць у залежнасьці ад цяплыні паветра. На нач-жа трэба зусім выняць кіёк, каб вакно ляжала на скрынцы, а зьверху прыкрыць чым-небудзь, каб за ноч ня ахаладала паветра ў скрынцы. Калі на памідоры знойдзецца плямка, трэба яго выкінуць, бо ён усё роўна сапсуецца і будзе горкі.

---

## Пару слоў аб марынаваньні грыбоў, ягад, памідораў і г. д.

Марынованыя рэчы тады толькі пачынаюць псавацца, калі на версе зьявіцца плесьня. Дык вось трэба зрабіць усё магчымае, каб плесьня не зьяўлялася. Першым варункам, каб плесьні ня было, гэта чыстата самых марынаваных прадуктаў, судзіны, у якую складаем, патрэбная моц воцту і перахоўваньне ў сухім і халодным месцы. Калі гэта ўсё зроблена, плесьні не павінна быць, аднак для большае пэўнасьці кладуць у воцат, якім залліваюць, таблеткі „бэнзоэсу", якія купляюцца ў аптэчных крамах па 60 гр. за 10 таблетак. На адзін літар воцту кладзецца адна таблетка. Гэтыя таблеткі прадаюцца ў крамах пад назовам: „tabletki benzoesowe do konserw. fabryki Ludwik Spiess i Syn".

---

## Марынаваньне грыбоў
### (баравікоў і апеняк).

Трэба ўзяць маленькія здаровыя грыбкі, ачысьціць іх ад пяску, зрэзаць кончык карэнчыка, каб упэўніцца ці не чарвівы, добра перамыць ды выкінуць на чыстае сіта, каб сьцякла вада. Пасьля гэтага ў саган з цэлаю пабелкаю ці рондаль наліваецца вада, уліваецца столькі воцту, каб утварылася такая кісьля як звычайна на боршч, укідаецца перац, ліст, цыбулька ды карэньні пятрушкі. (Вады трэба ўзяць столькі, каб, укінуўшы грыбы, яны ўсе былі пакрыты вадою). Гаршчок з вадою і прыправамі трэба паставіць на пліту закрыўшы яго накрыўкаю. Калі вада з прыправамі закіпіць, трэба тады ўкінуць туды грыбы, якія й павінны варыцца 15—20 мін. ад таго мамэнту, як закіпяць.

Пасьля гэтага, паставіць сіта на чыстую міску, выліць у яго грыбы з гаршка ці рондля, пасаліць іх добра перамяшаўшы ды пакінуць іх так у сіце аж пакуль зусім не астынуць.

[На вадзе, у якой варыліся грыбы можна зварыць боршч, ці капусту, або кіслую поліўку, дадаўшы туды крыху ячменных круп, ды пару лыжак сьмятаны].

Тымчасам трэба прыгатаваць воцат, якім заліваюцца грыбы. Робіцца гэта так: трэба ўзяць воцту бутэльку ці дзьве *) — залежна ад колькасьці грыбоў, бо трэба каб усе грыбы былі ў воцаце, уліць яго ў чысты з цэлаю пабелкаю гаршчок, усыпаць на кожную бутэльку воцату па аднэй сталовай лыжцы цукру, укінуць дзесяць зярнятак перцу горкага і столькі-ж пахучага, 5 лісткоў бабковых (лаўровых) і адну таблетку бэнзоэсу. Усё гэта прыкрыць накрыўкай і паставіць каб закіпела. Пасьля зьняць з пліты і паставіць каб астыла не знімаўшы накрыўкі, бо йначай выйдзе пах.

Астыўшыя зусім грыбы трэба злажыць у слоік (найлепш у шкляны, але можна й у гліняны) шапачкамі ўверх, а між іх паўкладваць перац і ліст, якія варыліся ў воцаце. Калі ўсё гэта зложана ў слоіку, тады

*) Воцат прадаецца ў крамах бутэлькамі, на якіх ёсьць наклейкі з надпісам: „Ocet do marynat",

трэба заліць грыбы прыгатаваным з прыправамі халодным воцатам. Узяць два кусочкі чыстае лучынкі, вялічынёю верху слоіка, абмыць іх у чыстай пераваранай вадзе, палажыць на грыбы зьверху накрыж так, каб яны затрымоўваючыся за берагі слоіка, прыціскалі грыбы, каб паверх грыбоў быў воцат. Завязаць слоік чыстаю васковаю паперою і паставіць у сухім халодным месцы. Праз два тыдні трэба слоік з грыбамі развязаць ды паглядзець ці не надта слабы воцат і ці ён не цягнецца. Калі воцат цягнецца, трэба яго зьліць у чыстую бутэльку, а на яго месца прыгатаваць вышпаданым спосабам свежага воцату, якім, астудзіўшы яго, заліць грыбы.

Зьліты з грыбоў воцат можна ўжыць да баршчу ці капусты.

УВАГА: Калі хто ня любіць, можна ў воцат цукру ня сыпаць, аднак воцат з цукрам — не такі востры.

Гэтакім самым спосабам марынуюцца і апенькі.

## Сушэньне грыбоў.

Цяпер ёсьць вялікае запатрабаваньне на сушаныя грыбы (баравікі) рэзаныя, а не цэлыя. Робіцца гэта так: выбіраюцца зусім здаровыя грыбы ня вельмі малыя, але й не старыя, абціраецца з іх пясок, адрэзваюцца карэнчыкі (да шапачкі) і пасьля іх рэжацца ўздоўж тоненькімі (у 1/4 цм.) кусочкамі. Бляху, якая звычайна ўжываецца да пячэньня пірагоў, высьцілаюць кулявой саломай, а на ёй разсыпаюць парэзаныя вышазначаным спосабам грыбы. Грыбы на блясе мусяць быць разложаны роўным і ня тоўстым пластом, каб не пазьліпаліся.

Печ павінна быць напалена меней чымсь на пірагі г. зн. павінна быць не настолькі гарачая, каб грыбы падрумяніліся ды страцілі свой колер, а толькі — добра падвялі прастаяўшы ў печы цэлую ноч. Найлепш уставіць бляхі з грыбамі ў печ пасьля хлеба ці пасьля таго, як зварыцца абед (калі хто яго варыць у печы). Калі печ выстыгне, грыбы трэба выняць, паварушыць іх каб кусочкі былі непазьлепліваны ды зноў уставіць не ў гарачую (летнюю) печ і так рабіць датуль, пакуль грыбы зусім ня высахнуць.

Гэтак сушаныя грыбы не павінны мець цёмнага колеру, павінны быць зусім чыстыя, не павінны быць пазьлепліваны (кожны кусочак павінен быць асобна). За так высушаныя грыбы цана будзе ўдвая большая, чымсь за суцэльныя ды забруджаныя да таго попелам, а часта на'т і з пяском. Перахоўваць так высушаныя грыбы трэба ў чыстым палатняным мяшэчку, ды ў такім сухім месцы, якое пазбаўлена розных няпрыемных пахаў (як газа, селядцы і г. д.). Найлепш, зразумела, грыбы сушыць на сонцы, але, нажаль, тады, калі ёсьць грыбы — сонейка ўжо слаба грэе.

## Саленьне апеняк.

Сьвежыя апенькі без карэньчыкаў перабраць, перамыць добра, адварыць і зьліць на сіта, каб прастылі і сьцякла вада. Як прастынуць, злажыць у гліняны гаршчок, пасыпаючы добра сольлю. Палажыць паміж апенькалі бабковага лісту і перцу. Зьверху прылажыць кружочкам і прыціснуць каменчыкам, прыкрыўшы чыстым кусочкам палатна і паставіць у халодным месцы. Што пару тыдняў трэба заглядаць і, калі зьверху пакажацца плесьня, трэба зьняць яе, абмыць крумочак і каменчык у пераваранай вадзе, і, пакрыўшы чыстым кавалкам палатна, ізноў палажыць крумок, прыціснуўшы яго каменчыкам.

## Саленьне памідораў.

Сьвежыя, не перасьпелыя памідоры, добра вымыць, выцерці і ўлажыць у вялікі гліняны гаршчок, кладучы між памідорамі па некалькі лісткоў бабковых і кропу. Вады ўзяць столькі, каб пакрыла памідоры. На кожны літр вады ўсыпаць поўную сталовую лыжку солі. Ваду з сольлю, перад тым як заліваць памідоры, трэба перагатаваць і астудзіўшы заліць памідоры. Каб памідоры не плясьнелі, можна на кожны літр вады з сольлю дадаць па аднэй таблетцы бэнзоэсу. Некаторыя гаспадыні, солячы памідоры, кладуць таксама, як да гуркоў, усялякае лісьцё, як: дубу, вішні, смуродзіны і хрэну.

## Падліўка з памідораў на зіму.

3 кілё сьпелых памідораў, 3 лыжкі сталовыя цукру, 15 зёран перцу горкага, лыжка воцту, солі па смаку і 2 таблеткі бэнзоэсу.

Трэба памідоры вымыць, парэзаць на кавалкі і палажыць у гаршчок ці рондаль прыкрыць накрыўкаю і паставіць на пліту ці ў печ, кабварыліся. Вады ў памідоры ліць ня трэба, яны з сябе пусьцяць шмат соку, а толькі трэба часта мяшаць, каб не прыгарэлі.

Як скурка ад памідораў адстане і яны разварацца так, што лыжкаю разцёрці можна, трэба паставіць, каб прастылі. Як прастынуць да таго, што можна ўтрымаць палец, паставіць сіта на місцы ці якой іншай судзі-

не, перацёрці праз яго памідоры драўлянай лыжкай, уліваючы іх пакрысе на сіта. Пераціраць трэба добра, каб на сіце засталіся толькі зярняткі і скурка з памідораў.

Можна крыху спалоскваць вадою на сіце зярняткі і скурку, бяручы па лыжцы вады, каб лепш выпаласкаць. На 3 кілё памідораў ня можна ўжыць дзеля паласканьня больш вады як 1 шклянку. Калі памідоры ўжо працёрты праз сіта і няма ў іх зярнят ані скуркі, трэба іх зьліць зноў у гаршчок ці рондаль, паставіць на пліце ці ў печы і часта мешаць, каб варыліся. Мяшаць трэба драўлянаю лыжкаю, а варыць у чыгунчыку з цэлаю пабелкаю, бо ад жалеза траціцца смак.

Калі памідоры вывараціа да такой гушчыні як крупнік, трэба іх заправіць: усыпаць цукар, перац, уліць воцат, соль і бэнзоэс. Усё ўсыпаўшы, трэба папрабаваць, можа чаго замала, дык дадаць. Гэтак прыгатаваныя памідоры зьліваюцца ў чыстыя сухія бутэлькі, закарковываюцца коркам і ставяцца ў сухое халоднае месца, дзе могуць трываць пару гадоў не сапсаваўшыся і ня страціўшы смаку. Спажываць падліўку можна з мясам, з бульбаю адваранаю, з селядцом, а нават з хлебам ці булкаю.

## Поліўка з бараніны.

Трэба: 1 кілё бараніны, карэнчык пятрушкі, 2 карэнчыкі маркоўкі, цыбулька, $^1/_2$ кілё капусты, дзесяць бульбін, 1 лісток бабковы і солі па смаку. Перамыць мяса і палажыць у рондаль ці чыгунчык, уліць 3 літры вады, укінуць маркоўку, пятрушку, цыбульку, лісток бабковы і солі, паставіць на пліце ці ў печы, каб варылася памаленьку. Як пакіпіць гадзіну, трэба палажыць у мяса з вадою і прыправамі капусту, парэзаную ўздоўж качана вялікімі кускамі, каб ізноў кіпела. Праз гадзіну ад таго часу, як укінена капуста, трэба палажыць яшчэ ачышчаную бульбу і паставіць няхай ізноў кіпіць. Праз паў-гадзіны бульба будзе гатова і можна есьці поліўку.

Калі ў гэтую самую поліўку палажыць некалькі штук сьпелых памідораў і забяліць, дык гэта будзе мець іншы смак.

## Брусьніцы.

Трэба: брусьніц 5 кілё, 1 кілё цукру, 1 кілё салодкіх якблык і грушаў, 2 дэка цынамону (карыцы) штук 20 гвазьдзікі цэлае.

Сьпелыя брусьніцы перабраць, каб ня было лісьцікаў, сухіх і гнілых ягад, усыпаць іх у сіта, паставіць яго на вядры ці якой іншаі судзіне і абліць варам.

Як брусьніцы пастаяць з гадзіну на сіце і вада добра сьцячэ, трэба іх высыпаць у рондаль ці паліваны саган, паставіць на пліце, каб варыліся гадзіну, часта мяшаць, каб ня прыгарэлі.

Усыпаць цукар, паставіць на вольным агні, каб яшчэ варыліся. Калі сок крыху ўжо выварыцца і будзе яго менш, а брусьніцы будуць як-бы празрыстыя, колер іх пачне цямнець, трэба ўкінуць цынамон кавалкамі, гвазьдзіку, грушы ці яблыкі, прыгатаваныя наступным спосабам: ня надта сьпелыя грушы і салодкія яблыкі абабраць са скуркі як бульбу, парэзаць на шэсьць часьцінак, выкінуць зярняткі разам з каморачкамі, у якіх сядзяць і ўкінуць у кіпячыя брусьніцы. Як толькі яблыкі ці грушы будуць мяккія, трэба адставіць брусьніцы, каб прастылі. Зьліваць брусьніцы трэба ў гліняныя чыстыя слоікі гарачымі.

УВАГА: Грушы трэба кідаць у кіпячыя брусьніцы на 20 мін. раней чым яблыкі. Салодкія яблыкі не разварываюцца, дзеля гэтага ня кідаюць у брусьніцы кіслых. Замест яблык ці груш кладуць маркоўку, парэзаную кавалкамі.

## Квашэньне капусты.

Галоўкі капусты ачысьціць ад сухіх і гнілых лістоў. 20 карэнчыкаў маркоўкі аскрабці, вымыць і парэзаць так, як рэжуць макарон доўгімі тонкімі кавалачкамі. У чыстыя ночвы, ці чыстую, выпараную варам, балею ўсыпаць адно вядро парэзанае капусты, поў шклянкі солі і добра перацёрці. У чыста вымытую, выпараную варам і высушаную кадушку, усыпаць палавіну перацёртае з сольлю капусты, прыцярушыць парэзанаю маркоўкаю і ўціснуць добра драўлянаю чыста вымытаю доўбняю. Ізноў на другое вядро шаткаванае капусты ўсыпаць поў шклянкі солі, перацёрці і ўсыпаць туды-ж у кадушку, гэтак сама прыцярушыць маркоўкаю і ўціснуць доўбняю. Далей рабіць так, як вышэй сказана, пакуль ня будзе поўная кадушка. Калі кадушка будзе поўная капусты, трэба праткнуць у некалькіх мясцох капусту аж да дна кадушкі чыстым драўляным калочкам.

Пасярэдзіне кадушкі з капустаю ўваткнуць калок, прыкрыць кадушку перакінуўшы праз калок, чыстым кавалкам палатна і паставіць у хаце на шэсьць дзён. На сёмы дзень выняць капусту з кадушкі ў чыстыя ночвы ці балею і даць пастаяць ёй тры гадзіны, каб вышла горыч з яе.

Кадушку перанесьці ў халоднае месца, дзе будзе стаяць цэлую зіму не замерзаючы, пералажыць ізноў у яе капусту, тэтак сама ўціскаючы добра доўбняю. Пасьля прыкрыць чыстым кавалкам палатна намочанага ў пра-

соленай вадзе, абціснуўшы шчыльна кругом бочкі, прыкрыць кружочкам, а на верх палажыць камень. Кружочак і камень павінны быць чыстымі, бо калі ў капусту пападзе які колечы бруд, дык капуста пачне псавацца і будзе мець няпрыемны пах. Калі праз пару дзён на версе ў капусьце ня будзе расолу, трэба ўзяць пераваранае вады пасаліць яе так, як соліцца страва і ўліць у кадушку з капустаю. Што пару тыдняў трэба абглядаць капусту, калі заплясьнее залажыць чыстае палатно, змыць кружочак і камень.

Трэба мець на зьмену два кавалкі палатна, якімі прыкрываць капусту праз зіму, мяняючы іх. Калі адным кавалкам прыкрыта кадушка з капустай, другі павінен быць вымыты, высушаны і ляжаць у сухім месцы.

УВАГА: На кожнае вядро капусты добра яшчэ ўсыпаць адну лыжку цукру, або парэзаных ня гнілых яблыкаў. Некаторыя гаспадыні сыплюць кмін ці кроп.

**Бабулька.**

# РОЗНАЕ.

## Крыху аб кветках.

(Працяг).

Нашы садкі каля хатаў пачынаюць патроху зьмяняць свой выгляд. Ужо нядоўга будуць песьціць вока featured рознакалёрныя галоўкі кветак. Ужо цяпер бачым мы колькі ёсьць сярод іх перацьвёўшых, пажаўцелых. З гэтакіх кветак нельга зрабіць прыгожага букету, але яны надаюцца на нешта іншае — на насеньне.

Зьбіраць насеньне трэба старанна, калі яно ўжо пасьпее, бо толькі зусім сьпелае можа быць добра перахавана да самай вясны. Недасьпелае насеньне мае меншую вартасьць, бо калі пасеем такое, дык надта мала яго ўзыходзе.

Сабранае насеньне трэба яшчэ дасушыць перад тым, як пассыпаем яго ў мяшэчкі.

Дасушываць трэба ў месцах правеўных, дзе няма вільгаці. Добра высушанае насеньне ссыпаем у мяшэчкі, кожны гатунак асобна і падпісваем дзе што ляжыць, бо інакш можна забыцца да вясны як выглядае насеньне той ці іншай кветкі, а пасьля ламай сабе галаву дзе што пасадзіць. Ня можна складаць насеньня ў бляшаныя пушкі, трэба каб да яго дахадзіла паветра. Месца, дзе перахоўваецца насеньне мусіць быць правеўнае, сухое. Насеньне, якое перахоўваецца ў вільготным месцы, плясьнее і або зусім псуецца і не зыходзіць, або зыходзіць вельмі мала.

*Маладзіца.*

## Як перахоўваць на зіму яйкі.

Ёсьць шмат спосабаў перахоўваньня яек, але найлепшым лічу наступны: узяць шчыльную скрынку, на дно яе пасыпаць солі на два пальцы таўшчынёю, улажыць адно пры адным яйкі, ды зьверху засыпаць іх сольлю, а на верх ізноў улажыць рад яек ды таксама засыпаць сольлю. Так укладываць яйкі радамі і засыпаць сольлю, пакуль скрынка ня будзе поўная.

Трэба, каб на версе было столькі солі, каб яек ня было відаць. Скрынку з яйкамі паставіць у сухім і халодным месцы.

# ХРОНІКА

**— Пачатак школьнага году ў В.Б.Г.** Віленская Беларуская Гімназія ўжо распачала школьны год. „За бортам“ апынуліся чатыры вучыцялі: грам. Банцлебэн-Скерлетава, Ральцэвіч, Заморын і Луцкевіч, якіх куратар катэгорычна адмовіўся зацьвердзіць. У склад новае пэдагогічнае рады ўвайшлі: дырэктар А. Міхалевіч, кс. Адам Станкевіч, сьв. Н. Кульчыцкі, В. Грышкевіч, М. Ільяшэвіч, А. Сакалова, Я. Шнаркевіч, Вярнікоўскі, Р. Астроўскі, А. Астроўская, А. Трэпка, Адольфова, Александровічова, Кшэменёва, Кіта і Тымінскі. Апошвія два—

новыя. Незанятым пакуль-што асталося толькі станов'шча вучыцелькі нямецкае мовы, якое дырэкцыя гімназіі шукае.

Лічба вучняў у гімназіі. пя гледзячы на цяжкі гаспадарчы крызыс у нашай вёсцы, крыху павялічылася.

З днем 1-га верасьня г. г. пачаліся заняткі і ў беларускай гімназіі ў Наваградку, а таксама і ў Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі імя Фр. Багушэвіча.

**— У Дзьвінску,** як падае »Думка Беларуса« адбыўся 14 чэрвеня г. г. IX выпускны акт Беларускае Дзяржаўнае Гімназіі. Матуру атрымала 18 асоб.

4-га чэрвена г. г. адбыўся выпускны акт беларускай пачаткавай школы ў Дзьвінску, якую кончыла 24 вучняў,— 13 чэрвеня так-жа акт адбыўся ў Рызе на Беларускіх Вучыцельскіх Курсах, якія кончыла семнаццаць асоб.

**— Кангрэс нацыянальных меншасьцяў.** У Жэнэве ад 29 да 31 жніўня адбыўся чарговы VII Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў. Галоўнаю справаю на гэтым кангрэсе зьяўляецца выяўленьне палажэньня эўрапэйскіх нацыянальных меншасьцяў, якое мае быць абвешчана друкам.

**— Новы абавязак самаўрадавых гмінаў.** Як ведама новым законам абавязак дастаўленьня гмахаў пад пачатковыя школы накладзены на гм нныя самаўрады.

М ністар унутраных спраў абежнікам да ваяводаў высьвятліў, што некалькі суседніх гмінаў могуць будаваць школьныя гмахі ў складку. Для нас пры гэтым паўстае з асаблівай сілай справа нацыянальнай школы — беларускай у беларускіх гмінах Б-ж — новы абавязак наложаны на беларускія гміны толькі сільней падмуроўвае іх бясспрэчныя правы: будуючы цалком на свой кошт школьныя будынкі, беларускія самаўрады з падвойнай сілай і правам павінны дамагацца і сваей роднай выкладовай мовы ў гэтых школах.

**— Як будзе з вучыцелямі Віленскай Беларускай Гімназіі?** Рада міністраў на паседжаньні 3 верасьня пастанавіла дазволіць яшчэ на адзін год, выкладаць у сярэдніх школах і вучыцельскіх семінарыях вучыцялём, якія былі пазбаўлены гэтага права — дзеля адсутнасьці вымаганых «кваліфікацыяў» — пад варункам, што за гэты год яны здадуць усе вымаганыя міністэрствам эгзамены.

Справа вырашана радай міністраў нагул — адносна ўсіх тых звыш 1000 вучыцялёў, якіх жорскі загад міністэрства пазбаўляў — у такі страшэнна цяжкі час — працы і заробку.

Ясна, што слушная пастанова рады міністраў датычыць цалком і ўсіх вучыцялёў Віленскай Беларускай Гімназіі, не дапушчаных куратарам да выкладаньня — дзякуючы недахвату «кваліф кацыяў».

Характэрна адзначыць, што адзін з найлепшых вучыцялёў В. Бел. Гімназіі, якога дырэкцыя Гімназіі прадстав'ла, як незамянімага, ведамы знаўца беларускай літэратуры, бо ж і сам адзін з чаловых яе тварцоў — гр. Антон Луцкевіч таксама папаў у лік «недапушчаных».

Яшчэ больш характэрна, што ён — у апошнія дні перад рашучым тэрмінам — атрымаў дазвол здаць вымаганы міністэрствам эгзамен дый нават атрымаў ужо і выклік ад спэцыяльнай камісіі ў Варшаве на тэрміновы эгзамен дый быў ужо зусім сабраўся выехаць... Як раптам — у апошні мамэнт атрымаў з Варшавы ад тэй-жа камісіі тэлеграму — з паведамленьнем, што — для яго — эгзамен — адкладзены — «aż do odwołania». Тым часам — камісія скончыла працу, а гр. Луцкевіч аўтаматычна апынуўся «нekваліфікаваным» і быў выкінены з гімназіі.

Як нас інфармуюць з паважных крыніц, куратарыум і пасьля пастановы Рады М ністраў ня зьбіраецца дапусьціць гр. Луцкевіча да працы ў Гімназіі з увагі на яго палітычную «неблaганадзёжнасьць».

**— „Ураўненьне“ вязняў.** У Польшчы ўведзена ў жыцьцё — новы вастрожны «рэгулямін», які касуе існаваўшую дагэтуль дый існуючую блізу ўсюдых у цывілізаваных краінах розьніцу паміж вязьнямі ўгалоўнымі (крымінальнымі) і палітычнымі. Такім чынам высокі лёзунг: «роўныя з роўнымі», які так часта любяць у нас паўтараць, зьдзейсьнены пакуль што ў нас толькі—«за кратамі»...

Дзіўная рэч: у Канстытуцыі ня толькі выразна адрозьнены палітычныя вязьні ад угалоўных, але нават няспоўнены дагэтуль — за 10 гадоў — зьмешчаны загад, каб яны судзіліся «судом грамадзянскага сумленьня», ці судом прысяжных, прадстаўнікоў грамадзянства; законы аб судаводзтве таксама выдзяляюць палітычных падсудных і вязьняў. А начальнік усіх польскіх вастрогаў узяў дый выдаў сабе «новы рэгулямін», які цалком скасаваў гэтую розьніцу. І гэты яго незаконны загад стаўся законам, які стаў вышэй Канстытуцыі дый усіх іншых законаў Рэспублікі... Дзіўныя часы.

**— Надзвычайныя („даразныя“) суды ў Польшчы.** На паседжаньні 4 верасьня рада мін'страў зрабіла пастанову аб увядзеньні ваенна-палявых („даразных“) судоў на ўсей тэрыторыі Польшчы. Даразнаму суду будуць падлягаць асобы, даканаўшыя азброены напад, замах на ўрадоўцаў, на чыгункавы шлях, парахавыя склады, дзяржаўныя ўстановы і д. т. п.

9 верасьня абвяшчэньні аб даразных судох былі расклеены на вуліцах Вільні.

— **Дзялянкі зямлі для безработных.** Мін стар працы і сацыяльнай апекі загадаў ваяводам прыступіць у бліжэйшым часе да раздачы безработным — у карыстаньне — дзелянкаў мястовае і казённае зямлі — пад агароды. Дзелянкі гэтыя не павінны знаходзіцца далей 3 кілямэтраў ад места.

Загад добры, толькі... „крыху" спозьнены: лета ўжо мінула, а ў „бліжэйшым часе" зямлю пакрые сьнег...

## Пытаньні і адказы.

**Пытаньне.** Як саліць памідоры?

**Адказ.** Шукайце ў аддзеле „Гаспадарчыя парады".

**Пытаньне.** Сьмятана зьбіваеца ў масла, але гэтае масла ня злучаецца, а застаецца асобнымі вельмі дробненькімі часткамі ў масьлянцы. Чаму так робіцца і як гэтаму зарадзіць?

**Адказ.** Масла ня злучаецца дзеля таго, што сьмятана доўга стаяла, перакісла ды і трыманая мусіць у цяпле. Перахоўваць трэба сьмятану ў халодным месцы і часьцей трэба зьбіваць масла, каб сьмятана не пераставалася, дык тады напэўна масла будзе добра зьбівацца і добра злучацца.

## Наша пошта.

**Гр-цы Антанавічанцы Юлі.** Матарыял Ваш зьмяшчаем. У наступны нумар часапісі просім напісаць на тую тэму, аб якой Вы нам пісалі.

**Гр-цы Станкевічанцы Марыі.** Пісьмо Ваша атрымана. Пажадана Ваша супрацоўніцтва ў часапісі »Ж. С.«.

**Гр-ну Шэйне Андрэю.** Пісьмо Ваша атрымана і пробны нумар Вам высланы.

**Гр-цы Мятлянцы Паўліне.** Заява і сяброўскія складкі атрыманы. Часапіс будзе высылацца.

**Гр-ну Карпенюку Астапу.** Грошы ад Вас атрымалі. Выкрайка гарсэціка высылаецца пры гэтым нумары часопісу.



Цана ў краі: за год 6 зл. 50 гр., за паўгода 3 зл. 25 гр., за квартал 1 зл. 65 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Карльсбадзкая вул. 33 42.

Рэдактарка: Н. Шнаркевічыха. Выдавецтва: Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын імя Ал. Пашкевічанкі (Цёткі).

ДРУКАРНЯ А. ДВОРЖЭЦА. ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ ВУЛІЦА 32.